BLACK • GARBETT • FABELA

# Lucifer




«Сцэнар Холі Блэк разам са стыльным малюнкам Лі Гарбэта і колерам Антоніа Фабэла забяспечаць вам страшэнна прыемнае правядзенне часу»
– NEWSARAMA

VERTIGO

.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

#3 Apr '16
suggested for mature readers
vertigocomics.com

ЛЮЦЫФЕР #3

ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY



















ЁН ЗАПЫТВАЕЦЦА, ЦІ ІСНУЕ ТУТ СВАЯ ВЕРСІЯ ЛЮЦЫФЕРА...

...ЯКАЯ ЗАСТАЛАСЯ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК **ЁН** ПАКІНУЎ НЯБЁСЫ.

ЁН ГАДАЕ: ШТО БУДЗЕ, КАЛІ СУСТРЭЦЦА З САМІМ САБОЙ У СНЕ?

ЯМУ НЕ ПАДАБАЕЦЦА АДДАВАЦЬ СЯБЕ ВА ЎЛАДУ ТАМУ, ХТО ВЫКЛІКАЕ Ў ЯГО НЕПРЫЯЗНАСЦЬ.

ЯМУ ЎВОГУЛЕ НЕ ПАДАБАЕЦЦА АДДАВАЦЬ СЯБЕ ВА ЎЛАДУ КАМУ-НЕБУДЗЬ.

ВАЎ, ПРЫНЦ МАРКІТАВАНАЙ ЦЕМРЫ.


БОС ЖАДАЎ, КАБ Я ПЕРАКАНАЎСЯ, ШТО ВАС **СУСТРЭНУЦЬ** НАЛЕЖНЫМ ЧЫНАМ.
Я ПАВІНЕН ДАСТАВІЦЬ ВАС, КУДЫ ПАЖАДАЕЦЕ, КАЛІ ТОЛЬКІ ГЭТА НЕ **ЯГОНЫ ЗАМАК**. КАЛІ ВЫ ПАЖАДАЕЦЕ ПАЙСЦІ ТУДЫ, Я БУДУ ВЫМУШАНЫ ЗАВЕСЦІ ВАС У АДНО З **ЗЫБКІХ МЕСЦАЎ** І ВАДЗІЦЬ ВАС ТАМ КРУГАМІ ТЫСЯЧЫ ГАДОЎ.
ЦІ ЗАВЕСЦІ ВАС У ВЕЛЬМІ НЕПРЫЕМНЫЯ СНЫ.
ПРАБАЧЦЕ, НІЧОГА **АСАБІСТАГА**.
ТЫ ГЭТА БАЧЫЎ?
МЫ ПРЫЙШЛІ ПАРАІЦЦА З ЛІЛІТ.
ТА-АК. НАМ СЮДЫ.


ЕВА, МЫ ШУКАЕМ...
ЛІЛІТ. НІКОЛІ Б НЕ ПАДУМАЎ, ШТО ЗНАЙДУ ЦЯБЕ ТУТ. З **ЁЙ**.






МАГУ СКАЗАЦЬ ТОЕ Ж САМАЕ І ПРА ЦЯБЕ, АШУКАНЕЦ.


ГЭТА ДРУГАЯ НОЧ, ЯКУЮ МЭДЖЫН ПАВІННА БЫЛА **НАЧАВАЦЬ У КАМОРЫ**.
ЯНА ЧУЕ, ЯК АСТАТНІЯ ВЯЧЭРАЮЦЬ. ДА ЯЕ ДАНОСІЦЦА ВОДАР **КУРЫЦЫ**, ЯКУЮ ЯНЫ ЯДУЦЬ.
ЁЙ ЖА ДАСТАЎСЯ СЭНДВІЧ З ХЛЕБА, ЗАМЯШАНАГА НА ВАДЗЕ.


ЯЕ ПАКАРАЛІ ЗА ПЕРАПІСКУ З ЯЕ БРАТАМ ЛЕАНДРАМ, ЯКОГА **ЎСЫНАВІЛА** САМОТНАЯ ЛЭДЗІ З НЬЮ-ДЖЭРСІ.
ІХ НЕ ПАВІННЫ БЫЛІ **РАЗЛУЧЫЦЬ**, АЛЕ Ж РАЗЛУЧЫЛІ.


ЧАСТКА ТАГО, ШТО ЯНА НАПІСАЛА, БЫЛА НА **КРЭОЛЬСКАЙ МОВЕ**. ПАРКЕРАМ НЕ СПАДАБАЛАСЯ ГЭТА.
ЯНЫ ПАЛІЧЫЛІ, ШТО ЯНА ПІША ПРА **ДРЭННЫЯ РЭЧЫ**.


ЯНЫ АДЛУПЦАВАЛІ ЯЕ КАВАЛКАМ ПЛАСТЫКАВАГА ШЛАНГА.
ПОТЫМ ПЯТНАЦЦАЦІГАДОВЫ ТОМІ ПАРКЕР ЗАПЫТАЎ ЯЕ, ЦІ З'ЯВЯЦЦА Ў ЯЕ **СІНЯКІ**, УЛІЧВАЮЧЫ, ШТО ЯНА ТАКАЯ **ЧОРНАЯ**.
ЯНА БЫЛА ВЫМУШАНА **ПРЫКУСІЦЬ ЯЗЫК**, КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ ЯШЧЭ БОЛЬШ **ПРАБЛЕМ**.


КАЛІ ЯНА ПРЫБЫЛА Ў СЯМ'Ю ПАРКЕРАЎ, ЯНА ЛІЧЫЛА ІХ СТРОГІМІ, АЛЕ ПА СУТНАСЦІ **ДОБРЫМІ** ЛЮДЗЬМІ.
ВЫ Ж ПАВІННЫ БЫЦЬ ДОБРЫМІ, КАБ УЗЯЦЬ **СІРАТУ**, ТАК?
ПАРКЕРЫ І САМІ ВЕРАЦЬ У ТОЕ, ШТО ЯНЫ ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ.
ЯНЫ **АБЫХОДЗЯЦЬ БОКАМ** УСІХ, ХТО **ВЫМУШАЕ** ІХ У ГЭТЫМ УСУМНІЦЦА.


ЗНАЧЫЦЬ МАЯ ДАЧКА СКАЗАЛА ВАМ ПРЫЙСІ СЮДЫ?
МЯРКУЮ, ЯНА ЎСПОМНІЛА ПРА МЯНЕ БЕЗ **УСЯЛЯКАЙ** ПЯШЧОТЫ.
Я МЯРКУЮ, ЯНА ПАМЯТАЕ ЦЯБЕ ТАКОЙ, ЯКОЙ ТЫ БЫЛА.
НЯ ЛЕПЕЙ, НЯ ГОРАЙ.
ПЯЧОРА ЕВЫ. СНЫ.
ТЫ СПАДЗЯЕШСЯ, ШТО ЯНА ПАМЯТАЕ ТАКІМ І **ЦЯБЕ**, МОРНІНГСТАР?


ТЫ Б МОГ АТРЫМАЦЬ НЯБЁСЫ. У ЦЯБЕ БЫЛО **ПЕКЛА**. ЛЮДЗІ СПРАДВЕКУ ЛІЧЫЛІ ЦЯБЕ **КНЯЗЕМ ГЭТАГА СВЕТУ**.
ТВАЯ ПРАБЛЕМА Ў ТЫМ, ШТО ТЫ, ЯК ПАСЛЯДОЎНІК МАРКСА, НІКОЛІ НЕ ЖАДАЎ СТАЦЬ ПРЭЗІДЭНТАМ УСЯЛЯКАГА КЛУБА, КУДЫ Б ЦЯБЕ НЕ ЗАПРАСІЛІ.
ЗДАЕЦЦА, ТАМ БЫЛО НЯ ТАК.


ТЫ ЖАДАЕШ ТОЕ, ЧАГО НЯ МОЖАШ **АТРЫМАЦЬ**. ЯКІ ЖАЛЬ, ШТО Ў ЦЯБЕ УСЁ **ЁСЦЬ**.
НЯШЧАСНЫ РАСПЕШЧАНЫ ЛЮЦЫФЕР. **ТАТАЎ ЛЮБІМЧЫК.** НЕ ЗАСТАЛОСЯ ЎЗГОРКА, КУДЫ МОЖНА ПАДНЯЦЦА.
НЯШЧАСНЫ ПРЫВІД. ТАК ШМАТ ГОМАНУ І ТАК МАЛА СЭНСУ.


ТЫ ПРЫЙШОЎ ПАЧУЦЬ ГІСТОРЫЮ ПРА **АСКОЛАК**. ШТО Ж, Я РАСПАВЯДУ.


«НЕКАЛІ, КАЛІ СВЕТ БЫЎ ЗУСІМ ЮНЫ, **АЗАЗЭЛЬ** БЫЎ НЕ ТАКІ САПСАВАНЫ, ЯК ЗАРАЗ».
«ЛІЧУ, ЯК І КОЖНЫ З НАС».
«ЁН БЫЎ ПАЖЫРАЛЬНІКАМ ГРАХОЎ. ВЯСКОВЫЯ ПЕРАДАВАЛІ СВАЕ ГРАХІ КАЗЛУ І АДСЫЛАЛІ ЯГО Ў ПУСТЫНЮ».
«АЗАЗЭЛЬ ПАЖЫРАЎ КАЗЛА, А РАЗАМ З ІМ І ЎСЕ ГРАХІ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ».
«АЛЕ ЧЫМ БОШ ГРАХОЎ ПАГЛЫНАЎ АЗАЗЭЛЬ, ТЫМ МАЦНЕЙ РАБІЎСЯ ЯГОНЫ **ГОЛАД**».


СУР'ЁЗНА? У СЭНСЕ, ГЭТА **ПРАЎДА** ЦІ ЯНЫ ТОЛЬКІ **ЛІЧЫЛІ**, ШТО ІХ ГРАХІ ЗНІКАЮЦЬ?
А ТАБЕ ШТО?
НЯ ВЕДАЮ. ГЭТА **ГІСТОРЫЯ**. ЖАДАЮ ВЕДАЦЬ. У АПАВЯДАННІ ГЭТА МАЕ ЗНАЧЭННЕ. АЗАЗЭЛЬ **ЖУЛІК**? ЁН ЖАДАЎ **ДАПАМАГЧЫ** ЛЮДЗЯМ?
У СЭНСЕ, ГЭТА Ж ГІСТОРЫЯ ПРА **ЯГО**, ТАК?


ЧАМУ Б ТАБЕ ПРОСТА НЕ ПАЧАКАЦЬ І ДАВЕДАЦЦА?
А ЧАМУ Б ТАБЕ ПРОСТА **НЕ СКАЗАЦЬ** МНЕ? ГЕРОЙ ЁН ЦІ ЛІХАДЗЕЙ?


У ГЭТЫМ І ЁСЦЬ ТВАЯ ПРАБЛЕМА, ЕВА. ТЫ ЖАДАЕШ, КАБ УСЁ БЫЛО ПРОСТА. ЖАДАЕШ, КАБ ЦЯБЕ КАРМІЛІ З ЛЫЖАЧКІ.
А **ТВАЯ** ПРАБЛЕМА Ў ТЫМ, ШТО ТЫ НІКОЛІ НЕ ЗАДАЕШ ВАЖНЫЯ ПЫТАННІ.
ПРАПАНУЙ ТАБЕ ЗМЕЙ ПАКАШТАВАЦЬ ПЛОД ВЕДАЎ, **ТЫ**, НАПЭЎНА, УСЯ ТАКАЯ: «ВОЙ НЕ, ДЗЯКУЙ. МЫ І ТАК УЖО ЎСЁ ВЕДАЕМ».


СТОП.
У ВАС ЁСЦЬ ЦЭЛАЯ ВЕЧНАСЦЬ, КАБ АБМЕРКАВАЦЬ ГЭТА.
АГА, ГЭТА КЛУБ **ВЕЧНЫХ БЫЛЫХ ЖОНАК**.


«АЗАЗЭЛЬ БОЛЬШ НЯ МОГ ЗАБЯСПЕЧВАЦЦА ГРАХАМІ, ЯКІЯ ПАГЛЫНАЎ. ЯГО, ШАПТУНА, ЗАЎВАЖАЛІ ПА ЎСКРАІНАХ ВЁСКІ».


«ЁН СХІЛЯЎ ЛЮДЗЕЙ ЗДЗЕЙСНЯЦЬ ЯШЧЭ БОЛЬШ ЗЛАЧЫНСТВАЎ».
«НАРОД ПАТУРАЎ».
**МУЖ!**
«НАВАТ **ПРАЗМЕРНА**».


«НІХТО НЯ ВЕДАЎ, КАЛІ ТРЭБА СПЫНІЦЦА».


«І ВОСЬ НАРЭШЦЕ СТАРЭЙШЫНЫ ВЁСКІ ПРЫЙШЛІ ДА ЧАРАЎНІЦЫ **ОФРЫ ОРЫ**, КАБ ЗАПЫТАЦЦА Ў ЯЕ, ЯК МОЖНА ЗНІШЧЫЦЬ АЗАЗЭЛЯ».
ТОЛЬКІ **БЕССМЯРОТНЫ** МОЖА ЗАБІЦЬ **ІНШАГА БЕССМЯРОТНАГА**.


«ЯНЫ НАЦІСНУЛІ НА ЯЕ ПАМАЦНЕЙ, ТАМУ ШТО ЁН БЫЎ АДЗІНЫМ БЕССМЯРОТНЫМ, ЯКОГА ЯНЫ ВЕДАЛІ».
КАЛІ АЗАЗЭЛЬ БЕССМЯРОТНЫ, МЯРКУЮ, ШТО ЯГО **МОЖНА** ЗАБІЦЬ **ЧАСТКАЙ САМОГА СЯБЕ**.


«ЯНЫ ПАКІНУЛІ ЯЕ І ЛАМАЛІ ГАЛАВУ НАД ГЭТЫМ...»
«... ПАКУЛЬ УНУЧКА ПРАВАДЫРА ВЁСКІ НЯ ВЫСТУПІЛА З **АГІДНАЙ** ЗАДУМАЙ».


«ВЯСКОВАЯ ЖАНЧЫНА НАФАРБАВАЛАСЯ І НАДУШЫЛАСЯ, А ПОТЫМ, ПРЫБРАНАЯ Ў ІЛЬНЯНЫЯ АДЗЕННІ, ПАЙШЛА ДА АЗАЗЭЛЯ».


«ТОЙ, ХТО ТАК КАХАЎ ГРЭХ, ХІБА Б ЗМОГ АДХІЛІЦЦА АД ЯЕ. ВОСЬ ЁН ЛЁГ З ЁЙ НА БЕРАЗЕ РАКІ. ЁН ПРАБЫЎ З ЁЙ ТРЫ ДНІ І ТРЫ НОЧЫ, І Ў **ВЫНІКУ** ЯНА ЗАЦЯЖАРЫЛА».
«ЯНА НАРАДЗІЛА ЯМУ ДВУХ СЫНОЎ – **БЛІЗНЮКОЎ**».
«ЯНА ДАЛА ІМ ІМЁНЫ **НАТАН** І **КАЛЕЎ**».
«НАТАН БЫЎ ЦЁМНЫ, КАЛЕЎ БЫЎ СВЕТЛЫ. НАТАН РАГАТАЎ, АЛЕ КАЛЕЎ БЫЎ ЦІХІ. НАТАН БЫЎ АДВАЖНЫ, У ТОЙ ЧАС ЯК КАЛЕЎ АДСТУПАЎ І БАЯЎСЯ».


«З САМІХ НАРОДЗІНАЎ ІХ ГАДАВАЛІ ДЗЕЛЯ **АДЗІНАЙ МЭТЫ**».
«КАЛІ ЯНЫ СТАЛІ МУЖЧЫНАМІ, КАЛЕВА РАЗЛУЧЫЛІ З НАТАНАМ І ЗАБІЛІ».
«НАТАН **ТАК І НЕ ДАВЕДАЎСЯ**, ЧАМУ КАЛЕЎ БЫЎ ЗАБІТЫ. МАБЫЦЬ, **ПРЫЧЫН І НЕ БЫЛО**».
«ЖЫХАРЫ ВЁСКІ ЎЗЯЛІ МЕТАЛ, ЯКІ ЎПАЎ З НЯБЁСАЎ, І СКАВАЛІ З ЯГО **МЕЧ**».


«ПОТЫМ ЯНЫ ПРЫНЕСЛІ МЕЧ НАТАНУ, КАБ ТОЙ З ЯГО ДАПАМОГАЙ ЗМОГ ЗАБІЦЬ СВАЙГО БАЦЬКУ».
«АШАЛОМЛЕНЫ **ЖАХАМ** АД УЧЫНЕНАГА І ЖАХАМ АД ТАГО, ШТО ЯШЧЭ ТРЭБА БЫЛО ЗРАБІЦЬ...»


«...ЁН БЛУКАЎ ПА ПУСТЫНІ, ЗАЛІВАЮЧЫСЯ СЛЯЗАМІ, І ШАПТАЎСЯ З МЯЧОМ, ЯКІ НЕКАЛІ БЫЎ ЯГОНЫМ **БРАТАМ**».
«МЕЧ УВАБРАЎ УСЕ ТЫЯ СЛЁЗЫ І ЛЮТАСЦЬ І ПАДРЫХТАВАЎСЯ. ЁН ЗВІНЕЎ АД СВАЙГО ГОРА І ГНЕВУ. ЁН **ЗВІНЕЎ** АД СВАЙГО ЎЛАСНАГА **ЖАДАННЯ ПАКАРАННЯ**».
«НАТАН ПРЫЙШОЎ ДА АЗАЗЭЛЯ І ПАРАЗІЎ ЯГО».


«КАЛІ НАТАН ЗАБІЎ СВАЙГО БАЦЬКУ, АЗАЗЭЛЬ **ПРЫЗНАЎ** У ІМ СВАЙГО СЫНА І Ў АПОШНІ МОМАНТ ПЕРАДАЎ ЯМУ ЎСЕ СВАЕ СІЛЫ... СВАЮ БЕССМЯРОТНАСЦЬ, СВАЕ ВЕДЫ, УСЁ, ШТО ЯМУ БЫЛО **ДАРАВАНА** ПАДЧАС СТВАРЭННЯ».
«АЛЕ ЯШЧЭ ЁН ПЕРАДАЎ ЯМУ І ЎСЕ **ГРАХІ**, ЯКІЯ НЕС У СЯБЕ. ЯНЫ ПЯКЛІ ПАД СКУРАЙ НАТАНА».
«ЁН ПАЙШОЎ НАЗАД У ВЁСКУ І ЗАРУБІЎ КОЖНАГА ЖЫХАРА. ЯНЫ БОЛЬШ НЯ БАЧЫЛІ Ў ІМ НАТАНА. ПАМІРАЮЧЫ, ЯНЫ НАЗЫВАЛІ ЯГО **АЗАЗЭЛЕМ**, І ЁН СТАЎ АЗАЗЭЛЕМ».

«БОГ СКАЗАЎ РАФАІЛУ: «ЗВЯЖЫ АЗАЗЭЛЯ ПА РУКАХ І НАГАХ І ПАМЯСЦІ Ў ЦЕМРУ. ЗРАБІ АДТУЛІНУ Ў ПУСТЫНЕ, ЯКАЯ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ДУДАЭЛЕ, І АПУСЦІ ЯГО ТУДЫ».
«І ПАЛАЖЫ НА ЯГО ГРУБЫ І ВОСТРЫ КАМЕНЬ І АХУТАЙ ЯГО ЦЕМРАЙ, КАБ ЁН ЗАСТАЎСЯ ТАМ НАЗАЎЖДЫ, І ЗАСЛАНІ ЯМУ ТВАР, КАБ ЁН НЕ ГЛЯДЗЕЎ НА СВЯТЛО. І Ў ВЯЛІКІ СУДНЫ ДЗЕНЬ ЁН БУДЗЕ КІНУТЫ Ў АГОНЬ».
«ПРЫНАМСІ ТАК ПРА ГЭТА ЗГАДВАЕЦЦА Ў КНІЗЕ **ЕНОХА**».
«ТАК І ЗДАРЫЛАСЯ, ПАКУЛЬ ЯГОНАЯ ПЛОЦЬ НЕ ЗНАСІЛАСЯ І ЁН НЕ ПА ЗАБЫЎСЯ СЯБЕ ЯК **НАТАНА**, АЛЕ Ж ВЕДАЎ СЯБЕ ЯК **АЗАЗЭЛЯ**».
ГЭТА **НЯ МОЖА** БЫЦЬ ПРАЎДАЙ. АЗАЗЭЛЬ БЫЎ ЧАСТКАЙ ТРЫУМВІРАТУ, ЯКІ **ПРАВІЎ ПЕКЛАМ**. ЯК ЁН МОГ **НЯ БЫЦЬ**... САБОЙ?
МЯНЕ БОЛЬШ ХВАЛЮЕ ДАЛЕЙШЫ ЛЁС **МЯЧА**.
«ЁН БЫЎ ЗАХАВАНЫ **ТАМ**, У ПУСТЫНЕ Ў ДУДАЭЛЕ. КАЛІ АЗАЗЭЛЬ ПАЎСТАЎ, ЁН НЯ ЗМОГ ЯГО НАСІЦЬ. ЯГОНАЯ **ПЛОЦЬ** ЗГАРЭЛА ДАШЧЭНТУ».
«ТАМУ МЕЧ УСЁ ЯШЧЭ ПАВІНЕН БЫЦЬ ТАМ».

САЛФЕР, АКЛАХОМА.
ПЕРАКАНАЙЦЕСЯ, ШТО ЯНЫ РАЗУМЕЮЦЬ, ШТО ВЫ САПРАЎДЫ КЛАПАЦІЦЕСЯ ПРА СТАН ІХНІХ ДУШ.
ВЫ ВЫКОНВАЕЦЕ СВОЙ ХРЫСЦІЯНСКІ АБАВЯЗАК.
І НЕ ЗАБЫВАЙЦЕСЯ **ЎСМІХАЦЦА**!
ВЫ ПРЫНЯЛІ **ІСУСА** Ў СЭРЦА СВАЁ?
ВЫ МАБЫЦЬ ЖАРТУЕЦЕ.
ГЭТА ПРЫВАТНАЯ ЎЛАСНАСЦЬ. **ШКЫНЬДЗЁХАЙЦЕ** АДСЮЛЬ.
**БЯГОМ!**
УВАХОДЗЬЦЕ, ДЗЕТКІ!


АДЧУВАЙЦЕ СЯБЕ ЯК ДОМА.
ЧАМУ ЎСЕ ВАШЫ **РЭЧЫ** СПАКАВАНЫЯ?
ТАМУ ШТО ЯНЫ МНЕ БОЛЬШ НЕ СПАТРЭБЯЦЦА.


НАМ, БАДАЙ, ТРЭБА ІСЦІ. ДЗЯКУЙ ЗА...
ЛУХТА. ІДУ Ў ЗАКЛАД, ШТО ВАМ, ДЗЕТКІ, НЕ ПЕРАШКОДЗІЛА Б ВЫПІЦЬ ЧАГО-НЕБУДЗЬ **ХАЛОДНЕНЬКАГА**. ЛІМАНАД?
ТАК!
МЫ ЖАДАЕМ ЛІМАНАД!


КАЛІ Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ТОЛЬКІ НОЖ ДЛЯ СТЭЙКАЎ, УСЁ ВАКОЛ ПАЧЫНАЕ ЗДАВАЦЦА СТЭЙКАМ.


АААААА!
**УЦЯКАЕМ**, ХУТКА!
МЫ НЕ АБАВЯЗАНЫ **ЦЯБЕ** СЛУХАЦЬ. ТЫ НАМ НЕ **САПРАЎДНАЯ** СЯСТРА.

ЛІМАНАД, ДЗЕТКІ!


ЗДАЕЦЦА, **ЁН** ГЭТА ЗРАБІЎ. ГЭТА **ПАВІНЕН** БЫЦЬ ЁН.
**МЭЦЬЮ**?
АЗАЗЭЛЬ.


НА ТВАІМ МЕСЦЫ Я Б ГЭТАГА НЕ РАБІЎ.
МНЕ БЫЛО ДАРУЧАНА ЗНАЙСЦІ ЗАБОЙЦУ **БОГА**, МЕНАВІТА ГЭТА Я І ЗБІРАЮСЯ ЗРАБІЦЬ.
ТЫ МАБЫЦЬ І ВЫКАРЫСТОЎВАЕШ УСЁ ГЭТАЕ РАСЛЕДАВАННЕ ЯК НАГОДУ ВЫЛЕЧЫЦЦА, АЛЕ **Я** Б АДПОМСЦІЎ ЗА НАШАГА **БАЦЬКУ**.


ГЭТА ПТУШКА РАСПАВЯДЗЕ МНЕ, ДЗЕ КАРОЛЬ СНОЎ **ХАВАЕ** АЗАЗЭЛЯ, І ПОТЫМ Я САМ ЯГО **ЗАБ'Ю**.
ГЭТА ПТУШКА – НЯ ТОЕ, ЧЫМ ЗДАЕЦЦА.


ТЫ НЯ ПАМЯТАЕШ ТАГО, ШТО ПАМЯТАЕМ МЫ, ГАБРЫЭЛЬ.
ТВОЙ СОН ПАМЯТАЕ.
МЭЦЬЮ КЕЙБЛ **ПАМЁР** У СНАХ І ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў КРУМКАЧА.
АЛЕ ГЭТА НЕ МЭЦЬЮ КЕЙБЛ.


ЛЮЦЫФЕР...


ПАСЛУХАЙ, ВЯЛІКАЯ ВАЙНА НАС УСІХ ПАКІНУЛА ТРОХІ РАСЧАРАВАНЫМІ.
ВЯЛІКАЯ ВАЙНА?
ВАЙНА НА НЯБЁСАХ, УСЯГО ТОЛЬКІ.
АЛЕ МЫ ЯШЧЭ ПАВІННЫ РАСКРЫЦЬ СПРАВУ


УСЁ, ЧАГО Я ЖАДАЮ, ГЭТА КАБ УСЁ БЫЛО ТАКІМ, ЯК У САМЫМ **ПАЧАТКУ**.
КАЛІ ЎСЁ МЕЛА **СЭНС**.
ТЫ ЗАЎСЁДЫ БЫЎ ТАКІМ ІДЫЁТАМ, ГАБРЫЭЛЬ, НАВАТ ТАДЫ.
ГЭТА Ж СОН. **ПРАЧНІСЯ ЎЖО**!


КУДЫ ГЭТА ЁН?
ЦЯПЕР У ЛЮЦЫФЕРА **СВОЙ** СОН.


ЭЛЭЙН БЭЛАК. ДАЧКА МІХАІЛА ДЭМІУРГА. ЭЛЭЙН БЭЛАК, ЯКАЯ КРОЧЫЛА Ў ПУСТЭЧУ І ЗАСТАЛАСЯ ТАМ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК **УСЯВЫШНІ** ПАКІНУЎ СУСВЕТ. ПЕРАД СВАІМ СКАНАННЕМ.
ДАЎНЕНЬКА НЯ БАЧЫЛІСЯ, ДЗЯДЗЬКА.
ТЫ НЕ РЭАЛЬНАЯ. ЯК І **ЎСЁ** ТУТ.
ГЭТА ВАЖНА?
ЛІЧУ, ШТО НЕ.
ЭЛЭЙН БЭЛАК, ЯКАЯ ЎНІКАЛА ГЭТЫХ АБАВЯЗКАЎ.


ТЫ НЕ СКАЗАЎ МНЕ, ШТО ГЭТА БУДЗЕ ТАК СКЛАДАНА. ТЫ ПАКАЗАЎ МНЕ, ЯК СТВАРАЦЬ СВЕТЫ, АЛЕ НІКОЛІ НЕ КАЗАЎ, ЯК ГЭТА **САМОТНА** – БЫЦЬ ІХНІМ ВАРТАВЫМ.
ТЫ НІКОЛІ МНЕ НЕ КАЗАЎ, ЯК ЦЯЖКА БЫЦЬ КАХАНАЙ І ЗНЯВІДНАЙ З-ЗА ТАГО, ЧАГО Я НАВАТ І **НЕ РАБІЛА**, І ЗА ТОЕ, КІМ НАВАТ НІКОЛІ І **НЕ БЫЛА**.
**ТАМУ** ТЫ **ПАКІНУЛА** СУСВЕТ?
Я ПАКІНУЛА ЯГО ТАМУ, ШТО ЭНЕРГІЯ БОСКАСЦІ – ГЭТА **ВЕРА**. А Ў МЯНЕ НІХТО НЕ ВЕРЫЦЬ, ЯНЫ МЯНЕ НАВАТ **НЯ ВЕДАЮЦЬ**. Я ВЯРНУЛАСЯ НАЗАД У СВОЙ СУСВЕТ, ДА ЯКОГА **ПРЫНАЛЕЖУ**.
ТАМУ ТЫ ЗНІК? ТАМУ ШТО БЫЛО САМОТНА І СКЛАДАНА?
ВОЙ, ПАЧАКАЙ, **Я ВЕДАЮ**, ЧАМУ...


Я НЕ МАГУ ТАБЕ ДАПАМАГЧЫ. А НАВАТ КАЛІ Б І МОГ, ТО Я З **ТАБОЙ** НЕ РАЗМАЎЛЯЮ.
ТАК. ТЫ ГУТАРЫШ САМ З САБОЙ.
ГЭТА ІЛЮЗІЯ ЎЖО МЯНЕ СТАМІЛА.
«ВЫ Ж ВЕРЫЦЕ Ў БОГА, ТАК?»


ШТО Ж, ВЫ **НЕ ПАВІННЫ** Ў ЯГО ВЕРЫЦЬ.
Я СУСТРЭЛА ДЭМАНА, І ВЕДАЕЦЕ, ШТО ЁН ПРЫМУСІЎ МЯНЕ ЗРАБІЦЬ? **ЗАБІЦЬ** МАІХ ЖА СЯБРОЎ. І ВЕДАЕЦЕ, ШТО ЯШЧЭ?
ГЭТА БЫЛО ФАЙНА. Я ДУМАЛА ТОЛЬКІ ПРА ТОЕ, ШТО МНЕ ЖУРБОТНА АД ТАГО, ШТО Я НЕ МАГУ ЗРАБІЦЬ ГЭТА ЗНОЎ.


А **ВЫ** ТРОЕ ПРЫЙШЛІ РАЗАМ, НІБЫ ЗВЯЗАНЫЯ ЯГНЯТКІ, ГАТОВЫЯ НА ЗАБОЙ.


ШТО ВЫ ДУМАЕЦЕ НАКОНТ ГЭТАГА? ЖЫЦЦЁ – НЕСПРАВЯДЛІВАЯ РЭЧ І, ВІДАВОЧНА, **БОГ** ТАКСАМА.
Я ЛІЧУ, ШТО КАЛІ ДЭМАН ВАМ ШТОСЬЦІ КАЖА, ГЭТА **НАПЭЎНА** ПАДМАН.
Я НЯ ДУМАЛА, ШТО АДБУДЗЕЦЦА НЕШТА ПАДОБНАЕ.


АДПУСЦІЦЕ НАС. **КАЛІ ЛАСКА.** КАЛІ АДПУСЦІЦЕ, ТО БОГ ВАМ **ВЫБАЧЫЦЬ.**


**ЗАБІ ЗЯПУ! ЗАБІ ЗЯПУ! ЗАБІ ЗЯПУ!**


АГРНННН!
УЦЯКАЙ!








ЛЕПШ НЕ ПАДЫХОДЗЬЦЕ, ІНАКШ Я ГЭТА **РАЗАБ'Ю**.
ВЫДАТНАЯ ІДЭЯ. ТАК, РАЗБІ ПАСУДЗІНУ.


ДУМАЕШ, ЁН БУДЗЕ СЛУХАЦЬ **ЦЯБЕ**?
Я НЯ ВЕДАЮ.
ПРОСТА АДПУСЦІЦЕ МЯНЕ. ПРАШУ.


АДЧЫНІ ПАСУДЗІНУ. АДЧЫНІ, І Я ТАБЕ **ДАПАМАГУ**. Я **ЗАБ'Ю** ЧАЛАВЕКА, ЯКОГА ТЫ БАІШСЯ. Я ЗРАБЛЮ ТОЕ, ПРА ШТО ТЫ ЗАРАЗ ДУМАЕШ, ТОЕ, У ЧЫМ ВЕЛЬМІ **ВУСЦІШНА** ПРЫЗНАЦЦА.


МЭДЖЫН НЯ ВЕДАЕ, **ХТО** АБЯЦАЕ. АЛЕ ЁЙ НЕ ПАДАБАЕЦЦА, ШТО ЁН ЯЕ СПАКУШАЕ.


WEEOOOEEEOOOEEEOOOO
ВЕЛЬМІ ПОЗНА, ТАК ЖА? ПАЛІЦЫЯ ЎЖО ТУТ.
ВІДАЦЬ, ТЫ МЕЛА **РАЦЫЮ НАКОНТ** ДЭМАНАЎ.
ІМ НЕЛЬГА ДАВЯРАЦЬ.


EEEOOOEEEOOO


МЭДЖЫН БЫЛА ГЕРОЕМ. ЯНА ВЫРАТАВАЛА СВАЮ СЯСТРУ. ЯНА ТРАПІЛА Ў ГАЗЕТЫ І ВА ЎСЕ СМІ. КАЛІ ЯНА БЫЛА Ў ЦАРКВЕ, АЙЦЕЦ-НАСТАЯЦЕЛЬ МОЦНА АБНЯЎ ЯЕ, ХОЦЬ УСЕ БЫЛІ Ў ЖАЛОБЕ.


БАЦЬКІ ДАЗВОЛІЛІ ЁЙ ПАТЭЛЕФАНАВАЦЬ ЛЕАНДРУ, КАБ ПЕРАКАНАЦЦА, ШТО ЁН НЕ ХВАЛЮЕЦЦА.


УСЁ БЫЛО ДОБРА.
НЕ БЫЛО ЗУСІМ НІЯКАЙ ПРЫЧЫНЫ ДЛЯ ХВАЛЯВАННЯ.


МАГЛА Б МЯНЕ І ВЫПУСЦІЦЬ...


«... МЫ Ж АБОДВА ВЕДАЕМ, ШТО Я ТВОЙ **АДЗІНЫ** СЯБАР».
УСЁ ЗДАЕЦЦА **НАШМАТ** ПРАСЦЕЙ У ЧОРНА-БЕЛЫМ КОЛЕРЫ, ТАК?


Я ПРАЧНУЎСЯ?
НЕ.


ТЫ НЕ ПРАЧЫНАЎСЯ ЎЖО ШМАТ ЧАСУ.


ЧАМУ ЗАЎСЁДЫ, КАЛІ ТЫ КАЖАШ **ПРАЎДУ**, У МЯНЕ ТАКОЕ ПАЧУЦЦЁ, НІБЫ ТЫ ХЛУСІШ?


ТАК ЗДАЕЦЦА ТАМУ, ШТО ТЫ ДАГЭТУЛЬ СПРАБУЕШ **РАСКРЫЦЬ** ЗАБОЙСТВА.
АЛЕ Я ЎЖО **ВЕДАЮ**, ХТО ГЭТА ЗРАБІЎ.
Next: BAD DREAMS